# Голас Радзімы

№ 19 (2161)
10 мая 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.







«Музей — гэта памяць культуры». Так гаварыў выдатны філосаф М. Фёдараў. Таму менавіта музей паставіў перад сабой задачу збіраць, вывучаць і зберагаць узоры народнага мастацтва, іншыя помнікі матэрыяльнай і духоўнай культуры. Амаль сем гадоў Гарадоцкі краязнаўчы музей працаваў у гэтым напрамку: збіралі вырабы традыцыйнага беларускага мастацтва, адшуквалі старых майстроў, праводзілі выстаўкі, арганізоўвалі дні так званых адкрытых дзвярэй, калі кожны меў магчымасць пабываць у майстра, пабачыць, як ткуцца паясы, посцілкі, ручнікі, вырабляюцца з гліны адметныя вазы і фігуркі. Лагічным завяршэннем усёй гэтай карпатлівай работы стала стварэнне пры Гарадоцкім музеі клуба самадзейных мастакоў і майстроў народнай творчасці «Вытокі». Ён аб'яднаў 20 майстроў. Немаладыя ўжо людзі, якія захавалі сакрэты ганчарства і ткацтва, пляцення з саломкі, імкнуцца перадаць свой вопыт і веды малодшым, каб не перарваліся культурныя традыцыі народа.

НА ЗДЫМКАХ: Ніна КРАЙКО, пенсіянерка, майстар тканых беларускіх паясоў; Уладзімір ТАТАРНІК, пенсіянер, адметны ганчар; Галіна СТАСЮНЕНЯ сёлета адзначыць сваё 80-годдзе. А ткацтвам яна займаецца з 18 гадоў.

Фота С. КРЫЦКАГА.

ПЕРШАМАЙ

# ВЯСНА ТРЫВОГ І НАДЗЕЙ




Сёлетні Першамай — асаблівы. І не толькі таму, што споўнілася сто гадоў з часу першага масавага святкавання Дня міжнароднай салідарнасці людзей працы планеты. Абнаўляецца наша грамадства, абнаўляемся і мы самі. Скідваем путы руціны, пачынаем думаць самастойна, адмаўляемся ад напісаных прамоў, ад заарганізаванасці, якой паспелі падпарадкаваць усё і ўся, нават Першае мая. І хоць сустрэлі гэта свята ў складаных умовах, сярод мноства сацыяльных, эканамічных, нацыянальных праблем, але з надзеяй глядзім на пазітыўныя перамены, што ўносіць у наша жыццё перабудова.

Без пышнасці і пампезнасці, якія яшчэ зусім нядаўна суправаджалі Першамай, сустрэла масквічоў Красная плошча. Тут першамайскай раніцай маскоўскія прафсаюзы арганізавалі мітынг-маёўку. Сярод іншых на трыбуне былі Прэзідэнт СССР М. С. Гарбачоў, Старшыня Савета М[illegible]раў СССР М. І. Ры[illegible] і Старшыня Вярхоўнага Савета СССР А. І. Лук'янаў.

Пасля мітынгу адбылося першамайскае шэсце, арганізаванае Мас[illegible]ветам. У радах дэман[illegible]таў — прадстаўнікі [illegible]гіх арганізацый і рухаў, якія хоць і называюцца часам па прывычцы «нефармальнымі», але сталі ўжо адчувальнай рэальнасцю нашага палітычнага жыцця. Плюралізм лозунгаў—яркае таму сведчанне.

Адбыліся першамайскія мерапрыемствы і ў Беларусі. У Мінску прайшла святочная дэманстрацыя. Разам з кіраўнікамі рэспублікі ўдзельнікаў шэсця віталі ветэраны вайны і працы, народныя дэпутаты, перадавікі вытворчасці, вядомыя дзеячы навукі і культуры, прадстаўнікі генеральных консульстваў у Мінску.

Першамайскія шэсці, маніфестацыі - маёўкі прайшлі ў Брэсце, Віцебску, Гродне, Магілёве. У Гомелі ж на ўпрыгожанай кумачом цэнтральнай плошчы першага мая стаяла непрывычная для гэтага дня цішыня: многія працоўныя калектывы горада вырашылі адмовіцца ад удзелу ў першамайскай дэманстрацыі. Чаму? На гэта пытанне лепш за ўсё адкажа час. Магчыма, паўплывалі падзеі, якія адбыліся ў Гомелі ў канцы красавіка— папераджальныя [illegible]бастоўкі на «Гомсель[illegible]», у станкабудаўнічым [illegible]б'яднанні імя Кірава і іншых. Людзі не задаволены вырашэннем праблем, якія ўзніклі пасля катастрофы на ЧАЭС. Але і ў Гомелі ў Дамах [illegible]уры, парках і сквер[illegible]дбыліся разнастайныя святочныя праграмы.

НА ЗДЫМКУ: Першае мая ў Мінску.

СПОРТ ДЛЯ ІНВАЛІДАЎ

## ПЕРАМАГЧЫ СЯБЕ

Ці можна пераадолець планку, не бачачы яе, раз за разам выканаць трохачковы кідок у баскетбольнае кальцо седзячы, падняць штангу, не беручыся за сталёвы грыф пальцамі? І пры гэтым паказваць вынікі кандыдатаў у майстры спорту?

Усё гэта па сілах членам першага ў Беларусі фізкультурна-спартыўнага клуба для інвалідаў «Аптыміст», які адкрыўся ў Магілёве. Каля сотні інвалідаў займаюцца ў «Аптымісце» настольным тэнісам, цяжкай і лёгкай атлетыкай, сядзячым валейболам, стральбой з лука, плаваннем.

— Тыя, хто былі заснавальнікамі і цяпер з'яўляюцца пастаяннымі наведвальнікамі нашага клуба,—гаворыць яго старшыня Генадзь Пукінскі, — даюць усім добры ўрок, як атрымаць галоўную ў жыцці перамогу — перамогу над сабой. Нам пакуль не хапае спецыяльна абсталяваных пляцовак, трэнажораў, ды і выдзеленых грошай, на жаль, недастаткова. Але ж галоўнае — пачаць. Нарэшце, спартсмены-інваліды і ў нас выйшлі з ліку «нефармалаў», для іх арганізуюцца чэмпіянаты, спартакіяды, турніры...

ГАСТРОЛІ

## МУЗЫКА ЗБЛІЖАЕ СЭРЦЫ

Адным калектывам выступілі педагогі, навучэнцы дзіцячай музычнай школы Брэста і маладзёжнага камернага аркестра зямельнага музычнага савета Бадэн-Вюртэмберга (ФРГ). На сумесным канцэрце гучала музыка Моцарта, Мендэльсона, Вівальдзі, іншых вядомых кампазітараў. А прыехалі нямецкія музыканты ў Беларусь, каб наладзіць творчыя сувязі з музычнай грамадскасцю рэспублікі. У горадзе над Бугам яны сталі гасцямі ансамбля «Сузор'е», створанага ў адным з мясцовых будаўнічых трэстаў, які ў сваю чаргу атрымаў запрашэнне на прэстыжны міжнародны фестываль у ФРГ «Еўрапейскія музычныя сустрэчы».

АХОВА ПРАЦЫ

## СТВОРАНА АСАЦЫЯЦЫЯ

На трывалую эканамічную аснову плануе паставіць ахову працы ў рэспубліцы нядаўна створаная Асацыяцыя спецыялістаў гэтага профілю. Асацыяцыя задумана як самаакупнае гасразліковае аб'яднанне. Яе «прадукцыя» — кваліфікаваныя рэкамендацыі па бяспецы новых машын і тэхналогій, вытворчай эстэтыцы і паляпшэнню ўмоў працы. Будуць распрацоўвацца і новыя эканамічныя канцэпцыі бяспекі працы. Спецыялісты асацыяцыі прапаноўваюць рабочым узяць у свае саюзнікі рубель і паставіць справу так, каб любыя шкодныя ці небяспечныя станкі стала проста нявыгадна эксплуатаваць.

Нарэшце, сёння рэспубліцы не абысціся без уласных прадпрыемстваў па выпуску сродкаў калектыўнай і індывідуальнай аховы, кантрольна-вымяральнай апаратуры. Іх стварэннем, магчыма, з замежнай дапамогай таксама плануе заняцца асацыяцыя.

ПРАЗ ЧАТЫРЫ ГАДЫ ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ

# ПА АДЗІНАЙ ПРАГРАМЕ

Напярэдадні чацвёртай гадавіны бедства на сумесным пасяджэнні Савета Саюза і Савета Нацыянальнасцей Вярхоўнага Савета СССР разглядалася пытанне аб адзінай праграме па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС і аб сітуацыі, звязанай з гэтай аварыяй.

Пасля абмеркавання Вярхоўны Савет СССР прыняў пастанову «Аб адзінай праграме па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС і сітуацыі, звязанай з гэтай аварыяй». У ёй адзначаецца, што аварыя на Чарнобыльскай АЭС па сукупнасці вынікаў з'яўляецца самай буйной катастрофай сучаснасці, агульнанародным бедствам, якое закранула лёс мільёнаў людзей.

Вярхоўны Савет СССР падкрэслівае: меры, якія прымаюцца для ліквідацыі вынікаў аварыі, аказаліся недастатковымі. У раёнах, што падвергліся радыеактыўнаму забруджванню, склалася вельмі напружаная сацыяльна-палітычная сітуацыя, абумоўленая супярэчнасцямі ў рэкамендацыях вучоных і спецыялістаў па праблемах радыяцыйнай бяспекі, прамаруджаннем у прыняцці неабходных мер і ў выніку страты часткай насельніцтва даверу да мясцовых і цэнтральных органаў улады.

Існуючае становішча ў многім з'яўляецца вынікам няправільнай ацэнкі на ўсіх узроўнях дзяржаўнага кіравання ў цэнтры і на месцах маштабаў і вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

У прынятай пастанове пазначаны канкрэтныя мерапрыемствы, на якіх трэба сканцэнтраваць намаганні ў першую чаргу. Гэта тычыцца перасялення насельніцтва з тэрыторый, дзе забеспячэнне нармальных, без абмежаванняў, умоў жыцця і працоўнай дзейнасці немагчыма, і перш за ўсё сем'яў з дзецьмі і цяжарных жанчын.

Усяго ў два этапы (1990 і 1991 гады) праграмай намячаецца перасяліць жыхароў 395 населеных пунктаў, у тым ліку ў Беларусі—306 пунктаў, 38—40 тысяч чалавек.

Па прапановах і разліках саюзных рэспублік мяркуецца перасяліць да 1993 года з гэтай катэгорыі прыкладна 110—130 тысяч чалавек, а ў цэлым па праграме намячаецца перасяліць з забруджанай тэрыторыі 180—200 тысяч чалавек, у тым ліку ў Беларусі—90—94 тысячы чалавек.

Прынятая пастанова прадугледжвае выдзяленне неабходных фінансавых і матэрыяльна - тэхнічных рэсурсаў, прыцягненне вядучых айчынных і замежных спецыялістаў для завяршэння распрацоўкі Адзінай доўгатэрміновай дзяржаўнай саюзна-рэспубліканскай праграмы, якая павінна быць зацверджана да канца 1990 года.

Савету Міністраў СССР даручана распрацаваць праект Закона аб чарнобыльскай катастрофе; распрацаваць да канца 1990 года комплекс мер па вывядзенню энергаблокаў Чарнобыльскай АЭС з эксплуатацыі; завяршыць у 1990 годзе фарміраванне навукова абгрунтаваных крытэрыяў бяспечнага пражывання людзей з улікам беспарогавай канцэпцыі і іншых сучасных уяўленняў; распрацаваць і зацвердзіць да верасня 1990 года спецыяльную праграму «Дзеці Чарнобыля»; прыняць меры па хутчэйшаму спыненню на забруджаных тэрыторыях вытворчасці прадуктаў харчавання, якія не адпавядаюць нарматывам і г. д.

***

26 красавіка 1990 года рэспубліка ўпершыню адзначала аб'яўлены афіцыяльна Дзень чарнобыльскай трагедыі—змрочную дату сваёй гісторыі.

Ужо раніцай з запаленымі фарамі аўтамабіляў выехалі на дарогі многія вадзіцелі. На працягу ўсяго дня не гасла гэта трывожнае святло. А на змярканні тысячы свечак запаліліся на стадыёне «Дынама». Іх прынеслі сюды ўдзельнікі мітынгу-рэквіема, якія прыйшлі аддаць даніну памяці ўсім ахвярам Чарнобыля.

...У 21 гадзіну пагаслі пражэктары. Трывожны бой званоў загучаў над чашай стадыёна ў Мінску. Да мікрафона падышоў мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі Філарэт, патрыяршы экзарх усяе Беларусі. Усе ўсталі, беражліва хаваючы ў далонях трапяткія агеньчыкі свечак. Яго выступленне, якое хутчэй можна назваць пропаведдзю аб адказнасці кожнага з нас, усяго чалавецтва за ўсё, што мы творым на зямлі, аказалася вельмі сугучным з настроем людзей. Гэты заклік да пакаяння, міласэрнасці, спачування набатам адгукнуўся ў сэрцах удзельнікаў мітынгу-рэквіема.

***

Такімі ж пачуццямі былі перапоўнены сэрцы мільёнаў людзей, што прынялі ўдзел у дабрачынным 24-гадзінным тэлемарафоне «Чарнобыль», які вёўся з дзяржаўнай канцэртнай залы «Расія» ў Маскве. Каля 5 мільёнаў долараў і больш за 70 мільёнаў рублёў пераведзена на рахунак тэлемарафона за суткі. І гэта без уліку ахвяраванняў у выглядзе медыкаментаў, абсталявання, тавараў шырокага спажывання.






НА ЗДЫМКАХ: мітынг-рэквіем на мінскім стадыёне «Дынама».

